Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

18 - 24 ліпеня 1997 года

# Рэгіянальная газета

ЦАНА 2000 РУБ. ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

Дзеці на іголцы






2-я старонка

## Адным абзацам

**І**нфляцыя за першае паўгоддзе года склала больш за 41%, амаль 7% у месяц. Калі яе тэмпы не знізяцца, то да канца года яна перавысіць "дазволеныя" прэзідэнтам і ўрадам планавыя памеры (28%) у тры разы. Мяркуем, кожнаму жыхару зразумела, што стаіць за прыведзенымі лічбамі - зарплаты ледзь-ледзь хапае толькі на самае неабходнае, рост цэнаў штомесячна перавышае рост аплаты працы на 7-8%. Па дадзеных прадстаўніцтва ААН у Беларусі, 80% насельніцтва краіны маюць даходы на ўзроўні і ніжэй за мінімальны спажывецкі бюджэт.

**С**ёлета Міністэрствам сувязі запланавана ўвесці, як і летась, 200 тысяч тэлефонных нумароў, што дазволіць паменшыць чаргу тых, хто чакае ўстаноўкі тэлефона, на трэць. Больш за ўсё пашанцуе мінчанам - да 1998 года сувязісты абяцаюць кожную сталічную сям'ю забяспечыць уласным тэлефонам.

**Д**ля забеспячэння роўных магчымасцяў для абітурыентаў і недапушчэння парушэнняў і злоўжыванняў у час уступных экзаменаў у ВНУ, згодна з Указам прэзідэнта, створаная дзяржаўная камісія з прадстаўнікоў Савета Бяспекі, Камітэта дзяржаўнага кантролю, міністэрстваў. На 30 тысяч месцаў у дзяржаўных вышэйшых вучэбных установах пададзена 90 тысяч заяў абітурыентаў.

**Д**ля настаўнікаў, якія пайшлі ў адпачынак, галоўнае - своечасова атрымаць грошы. Па словах адказнага работніка маладзечанскага гарадскога аддзела адукацыі, з тымі, хто пайшоў у адпачынак у чэрвені, разлічыліся, выплаціўшы ім 2,5 мільярда рублёў. На гэта ідуць усе грошы, што паступаюць з вобласці. Праўда, невядома, як і за кошт чаго будзе праводзіцца рамонт школ.

**У** філіяле Нацыянальнага мастацкага музея, што ў Гальшанах, адкрылася аўтарская выстаўка Пятра і Алены Шарыпаў. Бацька і дачка на працягу многіх гадоў былі сведкамі разбурэння Гальшанскага замка. Гэта адлюстроўвае цыкл работ Алены, выпускніцы Акадэміі мастацтваў, пад агульнай назвай "Руіны". А ўсяго на выстаўцы прадстаўлена каля 30 работ мастакоў, і ўсе яны менавіта пра Гальшанскія краявіды.

**А**стравецкае аддзяленне "Белаграпрамбанка" перадало раённаму аддзелу адукацыі 46 крэслаў - хаця і былых у карыстанні, але добрых. Падарункі размяркуюць па школах, дзе ёсць патрэба. Магчыма, адвучыўшыся ў школе на гэтых крэслах, вучням лягчэй будзе стаць банкаўскімі работнікамі?

**М**аладзечанскі цэнтр гігіены і эпідэміялогіі паведаміў, што ўзровень радыяцыі ў чарніцах, сабраных днямі недалёка ад вёскі Броды, перавышаў дапушчальны амаль удвая. Застаецца толькі нагадаць: акрамя ягадаў ёсць і грыбы, правяраць якія неабходна таксама.

**В**аложыншчына ад урагану пацярпела надзвычай сур'ёзна. Літоўска-беларускі канцэрн SBA пералічыў значныя сумы грошай на разліковыя рахункі мясцовых калгасаў "Радзіма", "Новае жыццё", "Чырвоная гвардыя", "Верны шлях". Грашовая дапамога аказана і канкрэтным сем'ям.

**С**а спіртзавода ў калгасе "Любань", што на Вілейшчыне, скралі 25 тон спірту. Піць дык піць. Узбуджана крымінальная справа.

**У** будуемым праваслаўным храме Астраўца ў мінулую нядзелю адбылося святочнае богаслужэнне, якое адпраўляў епіскап Навагрудскі і Лідскі Турый. Райцэнтр з гэтай мэтай ён наведаў упершыню.



## Крымінал, здарэнні

# У ПОШУКАХ ПРАЎДЫ

## жанчына паабяцала адкапаць магілу брата.

## Але нехта яе апярэдзіў

*СМАРГОНЬ. Соф'я Т., якая жыве ў Астраўцы, больш за два гады спрабуе знайсці праўду. Праўду, што тычыцца смерці яе роднага брата. Шукае яе ў кабінетах следчых, пракурора. Але безвынікова. Вось яе аповяд.*



- Быў у мяне брат Міхаіл, які жыў са сваёй жонкай Ядвігай у Смаргонскім раёне. Мелі двух сыноў. Разам пражылі сем гадоў.

І вось 17 студзеня 1995 года зранку патэлефанавала яго жонка і сказала: "Мішка павесіўся!" Я адразу ў гэта не паверыла і паехала з мужам у Смаргонскі раён. Там убачылі труп брата, які вісеў на вяроўцы, хаця яна была не завязаная. Праз паўтары гадзіны са Смаргоні прыехаў памочнік пракурора Станіслаў Дмухоўскі, участковы інспектар. На той момант цела брата было ўжо знята, бо мы не маглі доўга чакаць, каб ён быў на зямлі. Я плакала. Затым памочнік пракурора і ўчастковы запыталіся ў мяне, ці буду ўскрываць цела брата. Ва ўсім гэтым горы і роспачы я адмовілася. Адбылося пахаванне.

Праз некалькі дзён я даведалася ад майго роднага брата Юрыя, што Міхаіл не павесіўся, а быў забіты. Падазрэнне было на блізкую сваячніцу, і брат, не тоячы, сказаў ёй, што даб'ецца ў гэтай справе справядлівасці. У сваю чаргу, яна сказала мне, што разбярэцца з Юрам. Я яе папярэдзіла і сказала, каб яго не чапала.

Яшчэ праз месяц пасля смерці брата была імша ў касцёле. Я вырашыла пагаварыць са сваячніцай наконт гэтай загадкавай смерці. Выйшаўшы з касцёла, сказала: "Я адкапаю магілу Мішы, каб даказаць разам з міліцыяй, што ён быў забіты". Сведчылі аб гэтым і сінякі на целе.

Сваячніца сказала стрыечнай сястры: калі ў мяне ёсць долары, то змагу гэта зрабіць, а калі не, то нічога не дакажу. Я супакоілася, бо надзея што-небудзь даказаць зводзілася да нуля.

*Заканчэнне на 2-й ст.*

## Навіны

### Вінаватага віншуюць

*АШМЯНЫ. Грамату нядаўна атрымаў загадчык аддзела па фізічнай культуры, спорце і турызму райвыканкома Збігнеў Камінскі.*

Узнагародзіў яго параалімпійскі камітэт рэспублікі за ўклад у справу развіцця спорту сярод інвалідаў. Цяпер "вінаваты" прымае віншаванні. "РГ" далучаецца.

*Аддзел інфармацыі.*

### Свята на нашай вуліцы

*СМАРГОНЬ. Традыцыйна з года ў год тут ладзяцца святы вёсак. Арганізатарам выступае аддзел культуры. Сёлета да святкаванння далучыліся і некаторыя вуліцы райцэнтра.*

Прайшлі святы ў мікрараёне "Трактарны" і на вуліцы Карані. Была невялічкая "зайздрасць" да ўсяго гэтага ў жыхароў з суседніх вуліц, але, на шчасце, хутка прайшла. Яны заўважылі, што будзе і на іхняй вуліцы свята, і пачалі рыхтавацца да яго на Вілейскай, Міру і Асланава. Можа, атрымаецца лепш, чым у суседзяў?

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

### Любяць літоўцы. Беларускі самагон

*АСТРАВЕЦ. Жыхар памежнай Літвы ў раёне хутара Балоша спрабаваў, з улікам "паўпразрыстасці" мяжы, наладзіць перапраўку ў сваю краіну "народнага прадукта".*

Распачаў справу з малой партыі. Закупіў 15 літраў і на веласіпедзе спрабаваў пераправіцца праз мяжу. Але, як часам здараецца, патрапіў у рукі памежнікаў, а пасля размовы ў камендатуры застаўся без самагону, які знішчылі. У дадатак да ўсяго і штраф заплаціў немалы. Не заўсёды задуманае збываецца.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

### Эстафета прыбегла ў рэгіён

*АШМЯНЫ. На мяжы Ашмянскага раёна і Літвы адбылася перадача міжнароднай эстафеты "Бег Міру Дома - Адзінства Шры Чынмоя".*

Перадалі яе нашым бегунам літоўскія, а старт эстафета ўзяла вясной у далёкім Нью-Ёрку. Цяпер яна накіравалася ў бок сталіцы і, хутчэй за ўсё, пройдзе па ўсіх абласцях.

*Аддзел інфармацыі.*

## Піце піва

### Галоўныя півавары развіталіся з пасадамі

*МАЛАДЗЕЧНА. Дырэктар, галоўны бухгалтар піўзавода - развіталіся з пасадамі. Крыху паразважаўшы, да іх далучыўся і намеснік дырэктара. Праверкай са сталіцы выяўленыя сур'ёзныя парушэнні з акцызамі на гарэлку. Адначасова маладзечанскае піва, быццам бы, знікла з паліц магазінаў. Са стратай "галавы" парушыўся працэс вытворчасці?*

- Завод працуе, - супакоіў новы дырэктар Уладзімір Германчук, - іншая справа, гандаль хоча ўзяць прадукцыю, а разлічыцца пазней, пасля рэалізацыі. З улікам складанай сітуацыі на прадпрыемстве адпускаць тавар наперад не можам.

На сёння завод прапануе гандлю 3 гатункі піва: "Маладзечанскае", "Сівіж", "Беларускае". З новага года, магчыма, мы зможам купляць і даўно забытае "Жыгулёўскае".

*Віця КАРАНІК.*

Не адыходзячы ад касы

# Медыкаў перавялі на гасразлік

*МАЛАДЗЕЧНА. На тэрыторыі дзіцячай бальніцы больш за год як будаўнікі вырылі катлаван. Мусіць, з высакароднай мэтай узвядзення новага корпуса. Забілі палі, узяліся за падмурак. І на гэтым усё.*

За мінулы час катлаван заліло вадою. Нехта сітуацыю скарыстаў і кінуў туды дробных карасікаў. І цяпер дзеткам ёсць дзе рыбу лавіць.

Месца гэтае практычна нічым не абгарадзілі. Зваліцца ў катлаван можна вельмі лёгка. І тады атрымаецца, што будаўнікі паклапаціліся, каб у медыкаў работы хапала.

*Аддзел інфармацыі.*



*Фота Вячаслава Тамашэвіча.*

Падарожжа ў казку

## Хто чым ласуецца?

*ВІЛЕЙКА. Калі дзеці адпачываюць у аздараўленчых летніках, частка персаналу гэтых устаноў хоча карысна для сябе бавіць час. Зразумела, акрамя сваёй непасрэднай работы.*

У "Лясной казцы" повар не даклаў у кацёл прадуктаў на 364 тыс. рублёў. Што тады елі на абед дзеці - невядома. Там жа адміністрацыйны пратакол складзены на загадчыка склада. Сваю цыбулю, магчыма, на той жа самы абед, ён паліваў "дзіцячай" смятанай.

У летніку "Івалга" павары дамовіліся і недаклалі ў стравы прадуктаў на 502600 рублёў. Акрамя гэтага ў пакоях абслугоўваючага персаналу знойдзена розная агародніна. За гэта аформлены 4 адміністрацыйныя пратаколы.

*Аддзел інфармацыі.*

Крымінал, здарэнні

# У пошуках праўды...

*Пачатак на 1-й ст.*

Праз год, 8 чэрвеня 1996 года, з братам Юрыем і яго цёзкам паехалі на магілкі капаць зямлю пад фундамент для помніка на магіле Мішы. Толькі адкапалі крыху зямлі, як заўважылі труну. Тады брат выклікаў міліцыю. Прыехаў следчы пракуратуры С. Кавальчук з фотаапаратам, участковы, следчыя і жонка Мішы, якая з машыны так і не выйшла. Фатаграфавалі, вымяралі. Там было пашкоджанае вечка труны, цела брата. Усё запісаўшы, мне сказалі, каб праз пару дзён прыехала ў міліцыю. Ездзіла я, мой брат, але вынікаў гэта не дало. Напісала скаргу ў Гродна, бо не было доўгі час фотаздымкаў з адкапанай магілы. У студзені, пасля скаргі на імя пракурора рэспублікі В. Капітана, прыйшоў адказ у Смаргонь разабрацца. У раённай пракуратуры тады сказалі, што фотаздымкі знайшліся, і быццам бы пачалі весці следства па-новаму. Мяне прызналі пацярпелай, і на гэтым усё скончылася. І цяпер я не ведаю, каго прасіць, каб знайсці праўду".

**P. S. Друкуючы гэты матэрыял, мы наўмысна не бралі каментараў у следчых і пракурора. Магчыма, у іх з'явіцца жаданне зрабіць гэта пасля споведзі Соф'і Т. на старонках "РГ".**

**P.P.S. Калі матэрыял "стаў у паласе" астраўчанка Соф'я Т. атрымала ліст са Смаргоні, дзе, у прыватнасці, было наступнае. "Паведамляем, што крымінальная справа N16/09/97 па факту раскопкі магілы грамадзяніна (прыводзіцца прозвішча - рэд.), па якой вы прызнаныя пацярпелай, прыпынена вытворчасцю па арт. 194 п.3 КПК РБ "*у сувязі з неўстанаўленнем асобы, якая падлягае прыцягненню ў якасці абвінавачваемага.*"**

**Следчы Данілаў А.А."**

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

## Выпіў. Закурыў. Заснуў. Труп

*МАЛАДЗЕЧНА. За паўгода больш як сотня пажараў нанесла ў горадзе і раёне ўрон на суму амаль у 800 млн. рублёў. 5 чалавек загінулі.*

Практычна ўсе загаранні з'явіліся вынікам няўмення абыходзіцца з агнём. "Кошчын дом" актуальны і сёння. 8 пажараў з'ядналіся з п'янствам і скончыліся яны гібеллю 4 чалавек. Усе адбыліся ў прыватным сектары па аднай схеме: выпіў, закурыў, заснуў, труп.

Тое самае і ў другім паўгоддзі. 13 ліпеня адбыўся пажар у жылым доме ў Іванцэвічах Красненскага сельсавета. Беспрацоўны Л. Лавор, які жыў адзін, быў нецвярозы, курыў у ложку. Заснуў. Вынік плачэўны: гаспадар задыхнуўся ў дыме.

*Міхаіл ІВАШ.*

# Міліцыянерам дзякуй, гарэлка не ў пашане

*АСТРАВЕЦ. Ксяндзы з Астраўца, Солаў, Гражышак, Варнянаў, Гервятаў, Нарачы, Літвы і Славакіі, а таксама паломнікі з Солаў, Нарачы, Ашмянаў і вернікі касцёла Наведання Найсвяцейшай Дзевы Марыі сабраліся ў мінулую нядзелю ў мястэчку Гудагай на фэст.*

У ноч з суботы на нядзелю ля касцёла адбываўся крыжовы ход, а днём - урачыстая імша.

Сабралася каля тысячы чалавек. Многія, каб пакланіцца іконе Маці Боскай Гудагайскай, пераадольвалі пешшу не адзін дзесятак кіламетраў, прыязджалі на конях. Пашчасціла ў гэтым плане хіба толькі вяскоўцам з калгаса "Шлях Леніна", бо тамтэйшы старшыня выдзеліў аўтобус.

Пасля завяршэння фэсту ксёндз Бярнард выказваў удзячнасць міліцыянерам, якія падтрымлівалі парадак. Але быў засмучаны тым, што на ўрачыстасці знайшліся гандляры гарэлкай. Яе, дарэчы, прадавалі з аўталавак мясцовага райспажыўтаварыства.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*



## "Дзяржзаказ"

*СМАРГОНЬ. Фермерам раёна давялі "дзяржзаказ" - яны павінны прадаць дзяржаве 300 тон збожжа.*

Фермерскіх гаспадарак за 40. Бывае, што іх прадукцыя знаходзіць спажыўца далёка за межамі дзяржавы. Таму і існуе сёння разнарадка па збожжы. Тым не менш мясцовая ўлада фермераў не крыўдзіць. Наадварот, нават садзейнічае - у атрыманні крэдыту, іншым.

- На дзень работніка сельскай гаспадаркі віншуем іх разам з усімі, сядаем за адзін стол, бо паважаем усе формы ўласнасці, - сведчыць першы намеснік старшыні райвыканкома, начальнік упраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання І. Велькашынскі.

*Аддзел інфармацыі.*

Лета - квітнее саломка. Макавая

# "На іголку" "селі" дзеці

*МАЛАДЗЕЧНА. Старшы оперупаўнаважаны аддзела крымінальнага вышуку маёр Міхаіл Глінскі аб мясцовых наркаманах і наркотыках ведае амаль усё. Работа такая. Ён занепакоены: сёлета ўпершыню "на іголку селі" непаўналетнія:*

- Вучоныя лічаць, што адзін наркаман за год "садзіць на іглу" 10-15 чалавек. Прычым, звычайна, дзяцей не надта бедных бацькоў, бо на наркотыкі патрэбныя грошы.

**- Якое наша традыцыйнае зелле!**

- Самае таннае і адначасова моцнае - алейны мак (звычайны ў нашым разуменні). Яго вырошчванне падпадае пад адміністрацыйную адказнасць. Днямі правядзілі рэйд па Лебедзеўскім сельсавеце, выявілі 20 пасеваў маку. Што знайшлі - знішчылі. Летась выявілі 151 пасеў. Гэтую лічбу, на жаль, перакрылі.

**- Я чамусьці лічыў, што сыравіну купляюць на рынку ў тых жа прадстаўнікоў Азіі, Каўказа.**

- Увозіць сыравіну нявыгадна. У Мінску шклянка молатай саломкі каштуе 5-7 долараў. У нас - 20 тысяч рублёў. Сваёй сыравіны дастаткова. Асабліва ў вёсках назапасілі яе на некалькі месяцаў, а то і гадоў. У красавіку ў вёсцы Гаеўцы Палачанскага сельсавета гараджанка набыла 1 кг 300 г макавай саломкі для рэалізацыі. А прадстаўнікі Азіі, Каўказа перавагу аддаюць жавальнаму тытуню "Насвай", які афіцыйна не з'яўляецца наркотыкам.

**- З вашай статыстыкі ведаю - у гэтым годзе ўжо канфіскавана 19 кг макавай саломкі і больш за 6 літраў экстрацыйнага опію (гатовага прадукту). Як яго атрымліваюць!**

- Дэталёва растлумачваць не буду. Выкарыстоўваецца сама скарыначка без начыння і 15 см сцябла. Гэта ўсё размолваецца. Пры дапамозе растваральніка робіцца опій. Са шклянкі молатай саломкі атрымліваецца 2 кубікі - доза на дзень.

**- Наркаманаў судзяць!**

- Судзяць тых, хто гатуе, прадае ці захоўвае зелле. Наркаманаў проста як спажыўцоў шкада. Яны, практычна, смертнікі,- хутка атручваецца арганізм. На ўліку стаяць 30 чалавек. Беларусь не мае ўмоў для лячэння: лекаў, сродкаў, спецыялістаў. Ці пазбавіцца наркаман залежнасці за 10 дзён, што правядзе ў Навінках на вітамінах? Многія ўжываюць алкаголь, каб зняць напружанне. Тым не менш, кідаюць ужываць наркотыкі адзінкі. А асуджана ўжо сёлета 5 злачынцаў. Шэраг спраў у хуткім часе будзе перададзены ў суд. Адзін наркаман не дачакаўся суда - памёр ад перадазіроўкі.

**- Чытаў, што з 13 злодзеяў у законе 7 - наркаманы.**

- Наркаман у турме - асобная тэма. Наркотыкі перадаюць і за краты. Напрыклад, выкарыстоўваюць грэцкі арэх. Яго начынне - медыцынскі бінт, насычаны опіем. Калі размачыць, хопіць на 50 уколаў.

**- Дзе па Мінскай вобласці найбольш небяспечная сітуацыя па наркаманіі?**

- Па вобласці - у Барысаве, Салігорску і, безумоўна, Маладзечне.

*Васіль САВІЦКІ.*



Бывае і такое

# Як скарб у Нясцёрках шукалі

*ВІЛЕЙКА. На беразе вадасховішча стаіць невялікая вёсачка Нясцёркі. Пры Польшчы ў ёй жыў мужык.*

Жыў добра, меў вялікі кавалак зямлі, прылады для яе апрацоўкі і некалькі коней. Кожны год ён збіраў добры ўраджай збожжа, які прадаваў на кірмашы ў Даўгінаве. Пасля вяртання з кірмашу мужык збіраў сваіх дзяцей: дачку і двух сыноў, паказваў ім грошы, выручаныя за збожжа (частка з якіх была залатымі і срэбранымі манетамі); казаў, што калі-небудзь гэтыя грошы аддасць сынам, каб тыя купілі сабе зямлю. А потым ссыпаў манеты ў гліняны гаршчок і зачыняў у склепе.

Прайшлі гады, гаршчок ужо быў поўны, але мужык не радаваўся. Ён не ведаў, каму пакінуць грошы. Сыны выраслі лайдакамі, пілі гарэлку, біліся між сабой і з суседзямі. Дачка выйшла замуж у іншую вёску.

І вось, калі прыйшоў час мужыку паміраць, ён паклікаў сыноў і паведаміў ім, што гаршчок з грашыма схаваў, але пакінуў на хаце знак. Калі яны возьмуцца за розум, то па гэтым знаку знойдуць свой скарб. З тым і памёр.

Сыны пахавалі бацьку і прыняліся шукаць скарб, толькі не па розуму. У хаце адарвалі масніцы, разбурылі склеп, перарылі ўсё поле і нават лазілі ў калодзеж. Але ні знака, ні грошай так і не знайшлі.

І зараз стаіць гэта хата на беразе вадасховішча. Жыве ў ёй дачка таго мужыка, якая і паведаміла мне гэтую гісторыю.

А скарб знайсці можна, але трэба розум, які быў у таго працавітага мужыка.

*Ігар КІЦІКАЎ.*

